ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

№ 7 (1541) | Аўторак, 24 студзеня 1961 года | Цана 4 кап.

# АБ ВЫНІКАХ НАРАДЫ ПРАДСТАЎНІКОЎ КАМУНІСТЫЧНЫХ І РАБОЧЫХ ПАРТЫЙ

## *Пастанова Пленума ЦК КПСС, прынятая 18 студзеня 1961 года*

Пленум ЦК КПСС адзначае, што Нарада прадстаўнікоў камуністычных і рабочых партый, якая адбылася ў лістападзе 1960 года ў Маскве, з'явілася гістарычнай падзеяй сусветнага значэння. Нарада адыграе выдатную ролю ў далейшым умацаванні адзінства і ў развіцці міжнароднага камуністычнага руху, ва ўзмацненні барацьбы за мір і сацыялізм.

Удзел у Нарадзе дэлегацый 81 марксісцка-ленінскай партыі, грунтоўнае творчае абмеркаванне актуальных праблем сучаснасці, распрацаваныя і аднагалосна прынятыя Заява і Зварот да народаў усяго свету знамянуюць буйнейшую ідэйную і палітычную перамогу міжнароднага камуністычнага руху.

Нарада пацвердзіла вернасць камуністычных і рабочых партый Дэкларацыі і Маніфесту міру, прынятым у 1957 годзе, і на аснове новага гістарычнага вопыту вызначыла далейшыя перспектывы камуністычнага, рабочага і нацыянальна-вызваленчага руху. Калектыўна выпрацаваныя ацэнкі і вывады па пытаннях, пастаўленых ходам падзей, барацьбой за мір, нацыянальную незалежнасць, дэмакратыю і сацыялізм, з'яўляюцца важнейшым вынікам Нарады.

Вынікі Нарады 1960 года — самай прадстаўнічай у гісторыі сусветнага камуністычнага руху — нагляднае праяўленне непарушнай згуртаванасці камуністычных і рабочых партый на базе марксізма-ленінізма, іх цвёрдай рашучасці і ў далейшым як зрэнку вока захоўваць міжнародную пралетарскую салідарнасць, адзінства і братнюю дружбу.

Заява і Зварот да народаў усяго свету адпавядаюць інтарэсам шырокіх народных мас, іх імкненням да трывалага міру, сацыялізма, да вызвалення ад сацыяльнага і нацыянальнага прыгнечання. Гэтыя дакументы адыграюць велізарную натхняючую, мабілізуючую і арганізуючую ролю ў барацьбе за вялікія мэты, якія стаяць перад рабочым класам і яго марксісцка-ленінскім авангардам, перад усімі працоўнымі, прагрэсіўнымі сіламі народаў усіх краін.

Новыя ідэі і палажэнні, выстаўленыя ў Заяве, прадстаўляюць сабой прымяненне і далейшае развіццё марксізма-ленінізма ва ўмовах, калі міжнародная абстаноўка і суадносіны класавых сіл усё больш рашуча мяняюцца ў карысць сацыялізма. Заява — гэта агульная ідэйная платформа і праграма барацьбы ўсіх камуністычных і рабочых партый.

Вялікае значэнне для актывізацыі барацьбы за пазбаўленне чалавецтва ад пагрозы вайны мае Зварот да народаў усяго свету, які заклікае ўсіх людзей добрай волі, незалежна ад іх сацыяльнай прыналежнасці, нацыянальнасці, палітычных і рэлігійных перакананняў, згуртавацца ў барацьбе супраць імперыялістычных агрэсараў, сумеснымі намаганнямі адстаяць і ўмацаваць усеагульны мір.

Камуністычная партыя Савецкага Саюза разглядае Заяву і Зварот як важнейшыя марксісцка-ленінскія дакументы, як кіраўніцтва да дзеяння.

Прынцыповае значэнне для тэорыі і палітыкі міжнароднага камуністычнага руху, які ідзе ў авангардзе барацьбы народаў за мір, нацыянальную незалежнасць, дэмакратыю і сацыялізм, мае дадзеная ў Заяве разгорнутая марксісцка-ленінская характарыстыка нашай эпохі, галоўная адметная рыса якой заключаецца ў тым, што сусветная сацыялістычная сістэма ператвараецца ў рашаючы фактар развіцця чалавечага грамадства. У Заяве выказаны адзіныя пазіцыі камуністычных і рабочых партый па пытанню аб вайне і міры. Нарада пацвердзіла вывад аб рэальнай магчымасці прадухілення новай сусветнай вайны ў сучасных умовах, вызначыла сілы, здольныя ў ходзе рашучай барацьбы супраць імперыялізму адстаяць справу міру, а таксама ўмовы, у якіх яшчэ да поўнай перамогі сацыялізма на зямлі сусветная вайна можа быць выключана з жыцця грамадства. Перамога сацыялізма ва ўсім свеце канчаткова ліквідуе сацыяльныя і нацыянальныя прычыны ўзнікнення ўсялякіх войнаў.

Разам з тым Нарада падкрэсліла неабходнасць ўзмацнення пільнасці народаў у адносінах да ваеннай небяспекі. Пакуль існуе імперыялізм, агрэсіўная прырода якога не мяняецца, будзе заставацца і глеба для захопніцкіх войнаў. У цяперашні час асаблівае значэнне мае заклік Нарады да народаў разгортваць барацьбу супраць небяспекі новай сусветнай вайны, не чакаючы, калі пачнуць падаць атамныя і вадародныя бомбы.

Прадстаўнікі камуністычных і рабочых партый аднадушна заявілі, што ленінскі прынцып мірнага суіснавання з'яўляецца адзіна правільным і разумным прынцыпам міжнародных адносін. Цяпер пытанне стаіць толькі так — або мірнае суіснаванне паміж дзяржавамі з розным сацыяльным ладам, або разбуральная вайна. Іншага шляху няма. Ва ўмовах мірнага суіснавання ствараюцца спрыяльныя магчымасці для далейшага развіцця і ўмацавання сусветнай сацыялістычнай сістэмы, а таксама для разгортвання класавай барацьбы ў капіталістычных краінах, нацыянальна-вызваленчай барацьбы за поўную ліквідацыю каланіяльнай сістэмы. У сваю чаргу рэвалюцыйная класавая і нацыянальна-вызваленчая барацьба, усенародны рух за мір, спыненне гонкі ўзбраенняў, забарону атамнай зброі, за ўсеагульнае і поўнае раззбраенне садзейнічаюць умацаванню мірнага суіснавання. Нарада падкрэсліла, што ажыццяўленне выстаўленай Савецкім Саюзам праграмы ўсеагульнага і поўнага раззбраення мела б гістарычнае значэнне для забеспячэння міру ва ўсім свеце.

Камуністычная партыя Савецкага Саюза будзе і ў далейшым праводзіць ленінскую знешнюю палітыку мірнага суіснавання дзяржаў з розным сацыяльным ладам, няспынна выкрываць агрэсіўныя намеры імперыялістаў, павышаць пільнасць народаў у адносінах да ўсіх ворагаў міру. Да таго часу, пакуль не будзе ажыццёўлена раззбраенне, КПСС зробіць усё неабходнае, каб трымаць на належным узроўні абаронную магутнасць нашай Радзімы, лічачы гэта важнейшай умовай захавання міру, усямерна садзейнічаць забеспячэнню бяспекі ўсяго сацыялістычнага лагера.

Камуністычная партыя Савецкага Саюза поўнасцю падзяляе вывады, выкладзеныя ў Заяве, аб шляхах далейшага развіцця і ўмацавання сусветнай сацыялістычнай сістэмы, аб задачах братніх партый у справе паспяховага будаўніцтва сацыялізма і камунізма, выхавання народаў у духу сацыялістычнага інтэрнацыяналізму, непрымірымасці да ўсіх праяў нацыяналізму і шавінізму. Аб'яднанне сацыялістычных дзяржаў у адзіны лагер, яго мацнеючая згуртаванасць і ўзрастаючая магутнасць забяспечваюць у рамках усёй сістэмы ў цэлым поўную перамогу сацыялізма. КПСС, як і ўсе братнія партыі, бачыць галоўную крыніцу сілы і непераможнасці сацыялістычнага лагера ў адзінстве і згуртаванасці камуністычных і рабочых партый, народаў сацыялістычных краін, у іх адданасці ідэям марксізма-ленінізма.

Нарада адзначыла, што крушэнне сістэмы каланіяльнага рабства пад націскам нацыянальна-вызваленчага руху з'яўляецца другой па свайму гістарычнаму значэнню пасля ўтварэння сусветнай сацыялістычнай сістэмы з'явай у сучасным свеце. КПСС лічыць важнымі вывады Нарады аб узрастаючай ролі нацыянальна-вызваленчага руху ў сусветным развіцці, аб узрастаючых магчымасцях канчатковай ліквідацыі сістэмы каланіялізму, утварэння незалежных дзяржаў нацыянальнай дэмакратыі. Народы Савецкага Саюза, якія нязменна падтрымліваюць нацыянальна-вызваленчы рух, лічаць сваім інтэрнацыянальным абавязкам аказваць усямерную маральную і матэрыяльную падтрымку народам, што змагаюцца за пазбаўленне ад імперыялістычнага і каланіяльнага прыгнёту, за незалежнае нацыянальнае развіццё.

У Заяве асветлены актуальныя праблемы рабочага і дэмакратычнага руху капіталістычных краін, раскрыты новыя магчымасці вырашэння гістарычных задач, што стаяць перад ім. Аб'яднанне вакол рабочага класа шырокіх народных мас у барацьбе, накіраванай супраць панавання манаполій, з'яўляецца важнай умовай падрыхтоўкі мас да барацьбы за перамогу сацыялістычнай рэвалюцыі. Нарада пацвердзіла марксісцка-ленінскія палажэнні аб магчымасці мірнага і нямірнага пераходу да сацыялізма, аб формах дыктатуры пралетарыяту ў залежнасці ад канкрэтных умоў розных краін, з вялікай сілай падкрэсліла палажэнне аб тым, што камуністы заўсёды былі супраць экспарту рэвалюцыі і будуць рашуча змагацца супраць імперыялістычнага экспарту контррэвалюцыі. Гэтыя палажэнні адкрываюць перад рэвалюцыйным рабочым рухам ясныя перспектывы, усяляюць новую ўпэўненасць у рады камуністычных партый, рабочага класа капіталістычных краін.

Паспяховае вырашэнне камуністычнымі і рабочымі партыямі сваіх задач патрабуе працягваць і ў далейшым рашучую барацьбу на два фронты — супраць рэвізіянізму, які застаецца галоўнай небяспекай, і супраць дагматызму і сектанцтва, якія, калі супраць іх не весці паслядоўнай барацьбы, таксама могуць стаць галоўнай небяспекай на тым ці іншым этапе развіцця асобных партый.

ЦК КПСС надае важнае значэнне сфармуляваным у Заяве прынцыпам узаемаадносін паміж камуністычнымі і рабочымі партыямі, аднадушна прынятаму Нарадай палажэнню аб тым, што рашучая абарона адзінства міжнароднага камуністычнага руху на аснове прынцыпу марксізма-ленінізма, пралетарскага інтэрнацыяналізму, недапушчэнне якіх-небудзь дзеянняў, якія могуць падарваць гэтае адзінства, з'яўляюцца абавязковай умовай перамогі справы камунізма. Інтарэсы камуністычнага руху патрабуюць салідарнага захавання кожнай камуністычнай партыяй сумесна распрацаваных братнімі партыямі на сваіх нарадах ацэнак і вывадаў, якія датычаць агульных задач барацьбы супраць імперыялізму, за мір, дэмакратыю і сацыялізм.

Гэтыя прынцыпы поўнасцю адпавядаюць ленінскім нормам, якімі КПСС няўхільна кіруецца ў сваіх інтэрнацыянальных сувязях. Наша партыя будзе паслядоўна адстайваць і ўмацоўваць адзінства міжнароднага камуністычнага руху, расшыраць і ўмацоўваць свае сувязі з братнімі партыямі, выхоўваць камуністаў і ўсіх савецкіх людзей у духу інтэрнацыянальнай салідарнасці і братняй дружбы з народамі краін сацыялістычнага лагера і працоўнымі ўсяго свету.

Пленум ЦК КПСС з глыбокім задавальненнем адзначае аднадушную ацэнку ўдзельнікамі Нарады заслуг нашай партыі перад міжнародным камуністычным рухам, прызнанне яе дзейнасці як прыкладу прымянення рэвалюцыйных прынцыпаў пралетарскага інтэрнацыяналізму на практыцы, а таксама значэння гістарычных рашэнняў XX з'езда КПСС для развіцця міжнароднага камуністычнага руху на аснове марксізма-ленінізма.

Гэтая высокая ацэнка дзейнасці і вопыту нашай партыі натхняе савецкіх камуністаў на яшчэ больш актыўную барацьбу за пабудову камунізма ў нашай краіне, якая першая пракладвае шлях у светлую будучыню для ўсяго чалавецтва, на барацьбу за далейшае ўмацаванне магутнасці сацыялістычнага лагера, за мір ва ўсім свеце.

Пленум ЦК КПСС **пастанаўляе:**

1. Адобрыць палітычную лінію і дзейнасць дэлегацыі КПСС на чале з тав. М. С. Хрушчовым на Нарадзе прадстаўнікоў камуністычных і рабочых партый.

2. Адобрыць прынятыя Нарадай Заяву і Зварот да народаў усяго свету; лічыць неабходным ва ўсіх галінах дзейнасці КПСС захоўваць ацэнкі і вывады, якія ёсць у гэтых дакументах.

3. Прапанаваць партыйным арганізацыям абмеркаваць і растлумачыць камуністам і ўсім працоўным вынікі Нарады, змест і значэнне прынятых ёю дакументаў, заклікаючы ўсіх савецкіх людзей яшчэ больш паспяхова вырашаць задачы разгорнутага камуністычнага будаўніцтва, выконваць і перавыконваць заданні сямігадовага плана, сваёй працай усямерна памнажаць магутнасць нашай Радзімы, актыўна ўдзельнічаць у барацьбе за мір, павышаць пільнасць у адносінах да падкопаў імперыялістаў, умацоўваць згуртаванасць і дружбу з народамі ўсіх краін сацыялістычнага лагера, з працоўнымі і міралюбівымі народамі ўсяго свету.

Даручыць абкомам, крайкомам партыі і ЦК кампартый саюзных рэспублік:

а) абмеркаваць вынікі Нарады прадстаўнікоў камуністычных і рабочых партый на сходах партыйнага актыву;

б) арганізаваць вывучэнне Заявы і Звароту Нарады прадстаўнікоў камуністычных і рабочых партый у сістэме партыйнай асветы, а таксама ў вышэйшых навучальных установах і тэхнікумах краіны.

# НАДЗЁННЫЯ ЗАДАЧЫ

Велічныя, незабыўныя дні перажываюць савецкія людзі. Партыя і народ прымаюць усе захады да магутнага ўздыму сацыялістычнай эканомікі, росквіту навукі і культуры, літаратуры і мастацтва. Яны шчыра клапоцяцца аб стварэнні матэрыяльна-тэхнічнай базы камунізма і павышэнні сацыялістычнай свядомасці яго будаўнікоў.

Кіно, радыё і тэлебачанне, аб якіх будзе ісці размова на чарговым пленуме Саюза пісьменнікаў БССР, — важнейшыя галіны эстэтычнага выхавання савецкіх людзей — творцаў светлага і радаснага жыцця, людзей высакароднай маралі і марксісцка-ленінскіх ідэалаў. Іх значэнне ў культурным жыцці народа няспынна ўзрастае.

Можна назваць творы, якія заслужылі прызнанне савецкіх гледачоў і слухачоў, а некаторыя нават набылі шырокую вядомасць далёка за межамі нашай краіны.

Да іх, напрыклад, належаць мастацкія кінафільмы «Чырвонае лісце», «Дзяўчынка шукае бацьку», «Гадзіннік спыніўся апоўначы», «Канстанцін Заслонаў», першая серыя кінатвора па эпапеі Якуба Коласа «На ростанях» і інш. Вядома, што добрыя сцэнарыі ў многім спрыялі творчай удачы рэжысёраў і апаратараў, акцёраў і мастакоў у гэтых фільмах. Прыхільна былі сустрэты і экранізацыі вядомых твораў — купалаўскай «Паўлінкі», спектакляў «Пяюць жаваранкі» і «Хто смяецца апошнім» па п'есах К. Крапівы. Ва ўсіх гэтых фільмах акрэслілася нацыянальнае аблічча беларускай кінематаграфіі, яе мастацкая своеасаблівасць, здольнасць калектыву студыі «Беларусьфільм» вырашаць складаныя ідэйна-творчыя задачы.

Найбольш трывалыя сувязі з беларускімі пісьменнікамі мае рэспубліканскае радыё, асабліва яго рэдакцыі літаратурна-драматычнага і дзіцячага вяшчання. Калектывы гэтых рэдакцый рэдка скардзяцца на рэпертуарны «голад». Яны часта ўмеюць знаходзіць у незлічоных багаццях беларускай паэзіі, прозы і драматургіі тое, што асабліва цікавіць нашых слухачоў. І тэмы перадач нярэдка адлюстроўваюць надзённыя праблемы працы і жыцця народа.

Заслугоўваюць заахвочвання выступленні пісьменнікаў не толькі з чытаннем уласных твораў, але і па вострых, надзённых грамадска-палітычных пытаннях.

Менш трывалыя творчыя сувязі тэлебачання з пісьменнікамі. Праўда, і тут можна назваць удалыя работы (тэлеспектакль «Сымон-музыка», тэлеспектакль пра Максіма Багдановіча па твору Б. Бур'яна, паказ некаторых спектакляў па п'есах беларускіх драматургаў і інш.).

Аднак няма падстаў асабліва захапляцца асобнымі поспехамі. Трэба многа зрабіць, каб кіно, радыё і тэлебачанне сталі «родным домам» для майстроў беларускага мастацкага слова і таленавітай літаратурнай моладзі.

Трэба спыніць пранікненне на экраны і да мікрафона твораў нізкай ідэйна-мастацкай якасці або бездапаможных рамесніцкіх інсцэніровак, якія М. Горкі гнеўна называў «халтуражам».

На пленуме варта глыбока прааналізаваць прычыны няўдач такіх фільмаў, як «Вясеннія навальніцы», «Каханнем трэба даражыць» і іншых, што ў многім з'яўляецца вынікам непатрабавальнага стаўлення да сваёй творчай працы аўтараў кінасцэнарыяў.

Выклікае сур'ёзную трывогу і тое, што, нягледзячы на плённыя традыцыі ўдзелу пісьменнікаў у кінатворчасці, сцэнарны партфель студыі «Беларусьфільм» на 1961 г. даволі бедны. Наяўныя сцэнарыі не забяспечваюць высакаякаснае выкананне плана выпуску мастацкіх фільмаў у новым годзе, бо студыя за апошні час паслабіла работу з беларускімі пісьменнікамі і наогул не наладзіла яшчэ шырокага творчага кантакту з Саюзам пісьменнікаў, без чаго нельга паспяхова вырашыць сцэнарную праблему.

Мала ўдзельнічаюць нашы пісьменнікі ў развіцці нацыянальнай дакументальнай кінематаграфіі, не зважаючы на тое, што яна набывае ўсё большую папулярнасць у гледачоў.

Пленум Саюза пісьменнікаў БССР — такая грамадская трыбуна, дзе патрэбна шчырая размова аб тым, якімі шляхамі найлепш дамагчыся сапраўднай, а не фармальнай творчай дружбы паміж літаратарамі і майстрамі беларускай мастацкай і дакументальнай кінематаграфіі, узбагачэння сцэнарнага партфеля не толькі колькасна, але і творамі высокай мастацкай якасці.

Пакуль што не вырашана праблема радыё- і тэледраматургіі.

Не спыняючы перадачы лепшых пастановак драматычнага і опернабалетнага тэатраў, неабходна, аднак, мець на ўвазе, што найбольш задавальняюць эстэтычныя запатрабаванні слухачоў і гледачоў творы, драматургія якіх канкрэтна ўлічвае спецыфіку радыё- і тэлеспектакля, асаблівасць іх рэжысуры і акцёрскага майстэрства.

У тэлеперадачах і асабліва ў праграмах літаратурна-драматычнага радыёвяшчання яшчэ многа аднастайнасці і мала сапраўдных наватарскіх пошукаў. Рэальнае вырашэнне гэтай надзённай творчай задачы немагчыма без глыбокага, зацікаўленага і дзейснага ўдзелу ў гэтай справе нашых пісьменнікаў.

Вельмі мэтазгодна сістэматычна праводзіць конкурсы па кіно-, радыё- і тэлесцэнарыям. Конкурсы будуць спрыяць выяўленню новых аўтараў, якія цікавяцца гэтымі жанрамі. Каб стымуляваць працу пісьменнікаў для кіно, варта было б выдаць асобнымі зборнікамі некаторыя сцэнарыі, па якіх Беларуская кінастудыя паставіла фільмы.

Праблемы кіно, радыё і тэлебачання патрабуюць большай увагі літаратурна-мастацкага друку, творчых секцый драматургіі і крытыкі Саюза пісьменнікаў.

Вельмі добра было б, каб Пленум паспрыяў актывізацыі крытыкі ў жанрах кіно, радыё і тэлебачання, якія пакуль што знаходзяцца па-за ўвагай літаратуразнаўцаў і тэатразнаўцаў.

Наспела патрэба і ў падрыхтоўцы выдання зборніка артыкулаў па праблемах беларускага кіно, радыё і тэлебачання.

Увесь савецкі народ, шматлікія калектывы і майстры сацыялістычнай культуры рыхтуюцца дастойна сустрэць XXII з'езд Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, зрабіць усё неабходнае для здзяйснення пастаноў студзеньскага Пленума ЦК КПСС.

Трэба спадзявацца, што чарговы пленум праўлення Саюза пісьменнікаў БССР дапаможа майстрам беларускага кіно, дзеячам радыё і тэлебачання лепш выконваць свае абавязкі перад народам, паспрыяе ўмацаванню іх творчых сувязей з беларускай літаратурай, са шматгранным жыццём савецкага народа.

## Працуюць па-камуністычнаму

У Кобрынскім раёне даўно ведаюць кінамеханіка Аляксандра Дудзіка. Ён пачаў працаваць на кінаперасоўцы яшчэ ў 1954 г. Пасля службы ў Савецкай Арміі. За добрую службу ў арміі Аляксандра ўзнагародзілі Ганаровай граматай ЦК ВЛКСМ.

Дэмабілізаваўшыся, ён вярнуўся на Кобрыншчыну, зноў працуе на кінаперасоўцы.

На сходзе кінаработнікаў раёна Аляксандр Дудзік гаварыў у сваім выступленні, што ў любых умовах кінамеханік можа добра працаваць, выконваць план. Ён уключыўся ў спаборніцтва за званне ўдарніка камуністычнай працы, абавязаўся выканаць сямігодку за пяць год, выдатна паказваць фільмы, падрыхтаваць кінамеханіка і матарыста, скончыць завочна кінатэхнікум. Аляксандр валодае сумежнымі прафесіямі матарыста, кінамеханіка і шафёра.

На гэтым жа сходзе матарыст Марыя Паддубная таксама ўключылася ў спаборніцтва за права называцца ўдарнікам камуністычнай працы. Яна паспяхова сумяшчае працу з вучобай у восьмым класе завочнай сярэдняй школы. Марыя хоча стаць затым студэнткай-завочніцай ВНУ.

Мары такіх людзей, як Аляксандр Дудзік і Марыя Паддубная, заўсёды здзяйсняюцца. Яны стануць ударнікамі камуністычнай працы.

**В. ЛЕАНЮК,**
сакратар Кобрынскага райкома камсамола.

**На здымку:** група ўдзельнікаў рэспубліканскага семінара загадчыкаў раённых і гарадскіх аддзелаў культуры.

Злева направа: загадчык Церахоўскага раённага аддзела **М. Барашноў**, загадчык Хойніцкага раённага аддзела **М. Вяргейчык**, загадчык Слуцкага раённага аддзела **Ул. Пасько**, загадчыца Быхаўскага раённага аддзела **Н. Леўчанка**, загадчык Пінскага гарадскога аддзела **В. Усачоў**, загадчык Гомельскага раённага аддзела **Я. Руманоўскі**, загадчык Стаўбцоўскага раённага аддзела **В. Яфімаў**, загадчык Докшыцкага раённага аддзела **Я. Супрун**.

# РАШЭННІ СТУДЗЕНЬСКАГА ПЛЕНУМА ЦК КПСС — У МАСЫ

## Упэўнена ісці наперад

Новы год пачаўся студзеньскім Пленумам ЦК КПСС, вялікай размовай пра будучы росквіт нашай краіны, пра ўздым сельскай гаспадаркі, каб нашы людзі жылі яшчэ больш шчасліва і заможна.

Працаўнікі вёскі за апошнія гады, выконваючы рашэнні XX і XXI з'ездаў КПСС, дасягнулі значных поспехаў. Але жыццё ставіць новыя задачы. Тое, што нас задавальняла ўчора, сёння ўжо не можа задаволіць.

Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў на студзеньскім Пленуме ЦК КПСС гаварыў: «Галоўнае ва ўсіх нас — будаўніцтва камунізма, і для забеспячэння гэтага будаўніцтва трэба ўсе галіны народнай гаспадаркі развіваць раўнамерна, упэўнена ісці наперад».

Вось гэтыя словы — упэўнена ісці наперад, каб будаваць камунізм, — павінны з'явіцца баявой праграмай дзеяння кожнага савецкага чалавека, кожнага работніка культуры — кінамеханіка, бібліятэкара, удзельніка мастацкай самадзейнасці.

Галоўную сваю ўвагу аддадзім цяпер шырокай прапагандзе рашэнняў Пленума. Кожны калгаснік, кожны механізатар, жывёлавод павінен ясна ўсведамляць, што галоўнае цяпер — стварыць багацце прадуктаў для савецкага чалавека. За дасягненне рубяжоў, якія намеціў Пленум, будзе натхнёна змагацца наша калгаснае сялянства. А мы, работнікі культуры, абавязаны дапамагчы сельскім працаўнікам паспяхова выканаць абавязацельствы на 1961 г.

У нашым раёне ёсць нямала сельскіх культасветустаноў, якія сталі сапраўднымі цэнтрамі культурна-масавай работы на вёсцы. Гэта, напрыклад, Абідавіцкі і Ніканавіцкі сельскія клубы. Поспех іх работы ў тым, што яны цесна звязаны з жыццём сваіх калгасаў, маюць вялікі актыў з ліку настаўнікаў, урачоў, спецыялістаў сельскай гаспадаркі і калгаснікаў.

Можна прывесці многа прыкладаў, як бібліятэчная кніга дапамагае калгасніку і спецыялісту сельскай гаспадаркі вырошчваць высокія ўраджаі, павышаць прадуктыўнасць жывёлагадоўлі. Сёння ў нашых калгасах працуе вялікая армія механізатараў. Часам трактарысту ці камбайнёру бывае цяжка дастаць неабходную літаратуру па яго прафесіі. Тое ж самае могуць сказаць і нашы жывёлаводы, звеннявыя па вырошчванню кукурузы і іншых культур.

Варта кінуць сур'ёзны дакор у адрас Дзяржаўнага выдавецтва БССР, якое выдае яшчэ вельмі мала добрых кніг аб перадавым вопыце лепшых працаўнікоў калгаснай вёскі.

Мне думаецца, што ў калгасах і саўгасах нам трэба ў першую чаргу ствараць універсітэты сельскагаспадарчых ведаў, у якіх працаўнікі вёскі вучыліся б перадавым метадам вядзення гаспадаркі, асвайвалі б новыя дасягненні навукі.

Дапамагаць кнігай, натхняць словам працаўнікоў калгаснай вёскі на датэрміновае выкананне сямігадовага плана заклікае нас наша родная партыя.

**Ніна ЛЕЎЧАНКА,**
загадчыца Быхаўскага раённага аддзела культуры.

## Для працаўнікоў вёскі

Пастановы студзеньскага Пленума ЦК КПСС выклікалі ў сэрцы кожнага савецкага чалавека гарачую ўхвалу. І мы, работнікі ўстаноў культуры Пінска, вырашылі перагледзець сваю работу, нашы планы на 1961 г.

Чытаючы матэрыялы Пленума ЦК КПСС, кожны з нас думае: а ці ўсё мы зрабілі, каб нашы ўстановы сталі сапраўднымі асяродкамі культуры; што трэба зрабіць, каб нашы сувязі з калгаснай вёскай былі больш моцнымі і плённымі?

Мы разумеем: каб вырашыць грандыёзныя задачы па далейшаму ўздыму сацыялістычнай сельскай гаспадаркі, патрэбна перш за ўсё вялікая арганізатарская і агітацыйна-масавая работа. Неабходна сёння, не адкладваючы на заўтра, шырока растлумачваць працаўнікам калгаснай вёскі матэрыялы Пленума, дапамагчы ім вызначыць іх задачы на 1961 г. і мабілізаваць на выкананне ўзятых абавязацельстваў. У бліжэйшыя дні ў калгасы нашага раёна паедзе некалькі агітацыйна-мастацкіх брыгад гарадскога Дома культуры, індустрыяльнага тэхнікума, гідратэхнікума і іншых арганізацый горада.

Нядаўна мы правялі сумесную нараду работнікаў культуры горада і вёскі, на якой абмяркоўвалася пытанне аб шэфскай дапамозе калгасам. Работнікі культуры горада будуць практычна дапамагаць у працы ўніверсітэту культуры ў вёсцы Малоткавічы, яны дапамогуць стварыць універсітэт культуры і ў калгасе «Светлы шлях».

Прымаюцца захады, каб палепшыць прапаганду музыкі сярод сельскага насельніцтва. Выкладчыкі і калектыў вучняў музычнай школы правядуць сёлета ў калгасах раёна 15 лекцый-канцэртаў і больш 30 канцэртаў.

Многае зробіць для дапамогі вёсцы наш гарадскі Дом культуры. Народны тэатр паставіць на сцэнах калгасных клубаў 30 спектакляў. Выязная брыгада мастацкай самадзейнасці наведае ўсе калгасы, выступіць з канцэртамі ў многіх брыгадах. Гарадскі Дом культуры канкрэтна дапаможа ў афармленні нагляднай агітацыяй сельскіх асяродкаў культуры. Наша самадзейная кінастудыя прысвячае дакументальны кіначасопіс лепшым працаўнікам калгасаў раёна.

Добры пачын праявіў прафсаюзны клуб «40 год Кастрычніка». Нядаўна адбыўся вечар дружбы калектываў фанера-запалкавага камбіната і калгаса імя Калініна. На гэтым вечары перадавікі абмяняліся вопытам, радаваліся поспехам адзін аднаго, указвалі на недахопы, намецілі шляхі больш цеснай шэфскай сувязі рабочых і калгаснікаў. Падобныя вечары дружбы будуць наладжваць усе прадпрыемствы і ўстановы, якія шэфствуюць над калгасамі раёна.

Навуковыя супрацоўнікі Пінскага краязнаўчага музея рыхтуюць матэрыял для кнігі «Гісторыя калгасаў Піншчыны».

Выкладчыкі музычнай школы, работнікі Дома культуры і гарадскога парку дапамогуць сельскай мастацкай самадзейнасці. У прыватнасці, выкладчык музычнай школы Б. Мнацаканьян будзе кіраваць мастацкай самадзейнасцю на грамадскіх пачатках у калгасе імя Сталіна, выкладчык М. Назараў — у калгасе «Светлы шлях», дырэктар парку В. Вайнар — у калгасе імя Катоўскага. Артысты Народнага тэатра дапамогуць сельскім драматычным калектывам.

Гарадскі Дом культуры правядзе сёлета некалькі тэматычных вечароў для працаўнікоў калгаснай вёскі. Днямі ў гарадскім Доме культуры адбудзецца адзін з такіх вечароў — «Для тых, хто ў полі».

Работнікі культуры нашага горада зробяць усё, каб дапамагчы сельскім установам культуры ў іх высакароднай працы па прапагандзе матэрыялаў студзеньскага Пленума ЦК КПСС.

**Віктар УСАЧОЎ,**
загадчык Пінскага гарадскога аддзела культуры.

## Экспазіцыі абнаўляюцца

Частымі і жаданымі гасцямі ў нашым краязнаўчым музеі бываюць старыя камуністы — удзельнікі Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, грамадзянскай і Вялікай Айчыннай войнаў. Яны выступаюць з успамінамі перад моладдзю і камсамольцамі, школьнікамі, на піянерскіх зборах і перад калектывамі прадпрыемстваў горада. У мінулым годзе было праведзена звыш 170 лекцый і гутарак.

Неўзабаве будзе здадзены ў эксплуатацыю новы будынак музея.

Летась мы сабралі шмат цікавых экспанатаў і дакументаў ад прыватных асоб і арганізацый. Сярод іх звыш 30 фотаздымкаў паказваюць віднага дзеяча Камуністычнай партыі і Савецкай дзяржавы С. Арджанікідзе ў перыяд белапольскай акупацыі на тэрыторыі Барысаўшчыны і рэспублікі. Каштоўныя экспанаты музей атрымаў ад старых камуністаў тт. Шамардзіной, Львова, Ляўданскай, Закс і інш.

Шмат фатаграфій, на якіх паказана партызанская барацьба ў гады Вялікай Айчыннай вайны на Барысаўшчыне, нам перадалі былы камандзір партызанскай брыгады В. Пыжыкаў і былы начальнік штаба партызанскай брыгады А. Бальшакоў.

Папоўніўся раздзел экспазіцыі «Айчынная вайна 1812 г. і разгром французаў на рацэ Беразіне».

Вялікую ўвагу калектыў музея аддае збору экспанатаў, якія адлюстроўваюць дасягненні працоўных Барысаўскага раёна ў выкананні сямігадовага плана. Фонды музея папоўніліся фатаграфіямі перадавікоў сямігодкі, новабудоўляў і на культурна-бытавыя тэмы.

У раздзеле «Пасляваеннае сацыялістычнае будаўніцтва» ў новым будынку музея будуць экспанавацца ўзоры прадукцыі фабрыкі піяніна, фабрыкі мастацкіх вырабаў, шклозавода імя Дзяржынскага, камбіната імя Камінтэрна і іншых прадпрыемстваў.

У новым будынку музея створым раздзелы «Прырода роднага краю» і «Сельская гаспадарка».

**К. ГЛУШАНІН,**
дырэктар Барысаўскага краязнаўчага музея.

